# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 10 (151) 8 – 14 сакавіка 2002 г. Кошт 100 руб.


## Такія мэтады і выклікаюць сумненьні






Фота IREX

***У гэтыя дні адбываюцца шматлікія сходы працоўных калектываў розных беларускіх прадпрыемстваў, на якіх вырашаюцца пытаньні іхняга акцыянаваньня. Як правіла, гэта важныя, так званыя горадаўтваральныя прадпрыемствы. Пры гэтым сам працэс быў даволі нечакана ініцыяваны "зьверху", бо колькі год улада пахваляецца тым, што не даспусьціла "развалу і распаду".***

***Што ж насамрэч адбываецца? Гэтую тэму абмяркоўваюць (у адаптаванай для надрукаваньня форме) галоўны рэдактар газэты "Рабочы" Віктар Івашкевіч і эканаміст Леанід Злотнікаў.***

***– Ці можна лічыць цяперашняе акцыянаваньне неабходным, добрым эканамічным крокам?***

***Злотнікаў:*** *Так. Той жа нафтахімічны комплекс, напрыклад, найбольш зношаны і фізычна, і маральна. Сваіх сродкаў для мадэрнізацыі гэтых прадпрыемстваў няма, і тут толькі замежныя інвэстары могуць дапамагчы. Я лічу, што пакуль гэтыя прадпрыемствы ня стануць прыватнымі, ня будуць мадэрнізаваныя, яны нічога ня вартыя. Напрыклад, на вытворчасьці хімвалакна гэткай жа магутнасьці, як у Магілёве, у Паўднёвай Карэі працуе ў шэсьць разоў менш чалавек.*

***– Наколькі рабочыя разумеюць неабходнасьць зьмяненьня формаў уласнасьці сваіх прадпрыемстваў?***

***Івашкевіч:*** *Незалежны прафсаюз Беларускі, дарэчы, мае асноўныя структуры якраз на тых заводах, дзе пачынаецца прыватызацыя. Яны выступаюць "за". Іншая справа – што няма дакладнай інфармацыі, няма растлумачэньня працоўнаму калектыву, што гэта за прыватызацыя, што за інвэстары, якія пляны, што будзе са скарачэньнямі... Дык вось рабочыя незадаволеныя невядомасьцю. Увогуле, прыватызацыя з удзелам расейскіх алігархаў больш нагадвае нейкую таемную змову.*

***– Тым часам беларускі ўрад кажа расейскім кампаніям: спачатку дайце нам грошы, а потым мы ўжо будзем думаць, ці прадаць вам кантрольны пакет акцыяў...***

***Злотнікаў:*** *Безумоўна, што расейскія кампаніі сюды на такіх умовах ня пойдуць. Сёньня, дарэчы, у расейскіх алігархаў і грошай ня вельмі багата. Ды ў іх ёсьць куды й безь Беларусі ўкладаць...*

***– А якія ўвогуле ўмовы можа выстаўляць дзяржава замежным інвэстарам?***

***Злотнікаў:*** *Канкурэнцыя. Трэба, каб было (і гэта адлюстравана ў нашым заканадаўстве) ня менш як два інвэстары. Але цяпер заканадаўства, наколькі я ведаю, перарабляецца "пад аднаго інвэстара". І гэта дрэнна.*

***– Паводле незалежных сацыёлягаў, даволі вялікая частка беларусаў выступае супраць прыватызацыі прадпрыемстваў расейскімі бізнэсоўцамі...***

***Івашкевіч:*** *Тут ёсьць некалькі складнікаў. Адзін – гэта калі чалавек, што выступае супраць, галасуе такім чынам за эўрапейскі шлях Беларусі, а розных "саюзаў" з Расеяй ня хоча. Другі – гэта калі супраць прыватызацыі выступае чалавек камуністычных перакананьняў. Таму дэмакратычная апазыцыя мусіць выступаць супраць манапольнай, дыктатарскай і змоўніцкай прыватызацыі, але ж адначасова дэкляраваць сваю прыхільнасьць прыватызацыі дэмакратычнай і цывілізаванай, з удзелам, у тым ліку, заходняга капіталу.*

***– Як могуць быць захаваныя ў нас інтарэсы беларускай намэнклятуры і дырэктарату падчас прыватызацыі?***

***Злотнікаў:*** *Мяркую, што яны потым паціху пачнуць скупляць акцыі ў рабочых. Я, дарэчы, ведаю адно буйное машынабудаўнічае прадпрыемства ў Менску, дзе кантрольны пакет знаходзіцца ў руках ці то грэцкіх ці то кіпрскіх інвэстараў. А насамрэч гэтыя інвэстары – беларускія чыноўнікі, якія ўжо маюць грошы й такім чынам укладаюць іх.*

***– А як рабочыя ставяцца да працэсу пакупкі акцыяў?***

***Івашкевіч:*** *Паколькі працоўны калектыў ня будзе ўплываць на кадравую палітыку й жыць з дывідэнтаў, то для прафсаюзаў колькасьць акцыяў, якую будуць мець рабочыя, – не галоўнае пытаньне. Рабочыя жывуць з заробку.*

***– А ці ёсьць у рабочых разуменьне таго, што любая мадэрнізацыя прадпрыемства ў нашых умовах – гэта непазьбежнае й даволі значнае скарачэньне працоўных?***

***Івашкевіч:*** *Дык вось і задача апазыцыі – патлумачыць, што без дэмакратычных, комплексных рынкавых рэформаў прыватызацыя будзе рабіцца толькі за кошт рабочых.*

***Паводле радыё "Свабода"***

## Усё ад вас, матулькі, залежыць

Дарагія жанчынкі: нашы матулі, бабулі, кабеткі, маладзічкі, дзяўчаты, дзяўчынкі! Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе Вас зь сьвятам Вясны!

Спрадвеку маці – жанчыны, гаспадыні – лічыліся захавальніцамі сямейных традыцыяў. Нездарма ж беларусы сваю родную мову называюць матчынай, матулінай. Хай жа гэтая традыцыя ніколі не перапыняецца! Хай жа і надалей нашы матулі й бабулі праз нашы песьні й калыханкі перадаюць сваім немаўлятам найвялікшы наш скарб – мову. Мова ж – гэта, як сказаў мудры Францішак Багушэвіч, "адзежа душы чалавека".

Здароўя Вам усім, аптымізму і веры ў тое, што роднае слова вывядзе беларускую грамаду да дабрабыту, да маральнага яднаньня, а гэта значыць – і да маральнага здароўя.

Хай жа і гэтае разуменьне будзе кіроўным для тых, хто доўжыць наш род беларускі! Радзіма заўсёды будзе ўдзячная Вам за гэта!

***Сакратарыят ТБМ***

**СУД У ШКЛОВЕ**

## ...Разгуляліся тым часам эр-эн-эшнікі

***У выніку судовага паседжаньня 28-га лютага па крымінальнай справе паводле артыкулу 368 КК РБ ("абраза прэзыдэнта") вынясеньне выроку было адкладзенае на 14-ае сакавіка.***

Нагадаем, што пяцёра маладых хлопцаў – Максім Патупчык, Міхаіл Кавалёў, Дзяніс Сенакосаў, Аляксандар Паўловіч і Зьміцер Шалашкоў, якія зьяўляюцца сябрамі незарэгістраванага ўладамі руху негвалтоўнага супраціву "Зубр", могуць быць пазбаўленыя волі за правядзеньне 14-га жніўня мінулага году перадвыбарчай агітацыйнай акцыі ў вёсцы Гарадзец (*пра што "ТМ" тады ж паведамляў у нумары ад 31.08.01*). Нагадаем таксама, што падобнага прэцэдэнту – судовага працэсу паводле 368-га артыкулу, а тым больш – абвінаваўчага выроку па ім, у Беларусі яшчэ не было.

Справаздачнае паседжаньне суду цягнулася аж сем гадзінаў. Былі заслуханыя сьведкі, а таксама сьледчая Н.Ганчарова. Трэба зазначыць, што яна адказвала на пытаньні абаронцы ў катэгарычна падвышаным тоне. Заўважна нэрвавалася й памочнік пракурора сп-ня Алданава, якая падтрымвае абвінавачваньне (магчыма, таму цягам паседжаньня яна жавала "гумку").

Судьдзя сп-ня Халадцова, пасьля паўтарагадзіннага абмеркаваньня, адхіліла хадайніцтва адваката падсудных аб неабходнасьці экспэртызы Менскага ўнівэрсытэту культуры ў вызначэньні самога паняцьця "маска". Справа ў тым, што менавіта "маска чалавека з вусамі" ёсьць на працэсе адзіным рэчавым доказам злачынства, за якое й судзяць хлопцаў.

Тым часам у райцэнтры на дамах і платах ізноў зьявілася шмат графіці – "РНЕ" са свастыкай. Невядомыя прыхільнікі расейскай фашыстоўскай арганізацыі размалявалі агрэсіўнымі надпісамі пад'езд дому, дзе жыве адзін з абвінавачаных на працэсе. Недвухсэнсоўны заклік да гвалту, які ўтрымліваюць гэтыя надпісы, ніколькі не ўсхваляваў шклоўскія праваахоўныя органы...

"ТМ" мяркуе ў наступным нумары падаць, акрамя, зразумела, паведамленьня аб канчатковым выніку працэсу, прафэсійны камэнтар аднаго з праваабаронцаў, які ад пачатку сачыў за гэтай справай.

***Дзяніс НОВІКАЎ***

***Фота аўтара***





## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Аблвыканкам чарговым разам абмеркаваў "пытаньні энэргазьберажэньня". Як і заўжды, вырашэньне праблемы прамысловай запазычанасьці шукалі на шляху эканоміі. А справа, на меркаваньне адмыслоўцаў, у тым, што ў сабекошце прадукцыі прадпрыемстваў амаль 55% – гэта аплата за энэргетычныя рэсурсы. Тут састарэлая тэхналёгія вінаватая, а не дырэктыўная эканомія.**

Дасьведчаныя людзі характарызуюць стан народнай адукацыі ў абласным цэнтры і вобласьці як блізкі да катастрафічнага. Не адмаўлялі таго на сваёй сэсіі й гарадзкія дэпутаты. Да ўсяго на школьніках адбіваецца агульнае эканамічнае і сацыяльнае становішча ў грамадзтве. Напрыклад, з 1500 школьнікаў, якіх мэдыкі абсьледвалі ў Ленінскім раёне, толькі 8 былі прызнаныя цалкам здаровымі.

**Не магу без двукосься камэнтаваць абласны "зьлёт перадавікоў народнай гаспадаркі", што пампэзна сьвяткаваўся ў Палацы "Хімвалакно". А з другога боку, магчыма, што таксама ставяцца да мерапрыемства й самі арганізатары. Інакш пазьбеглі б агалошваць факты, якія ніяк да пераможных не аднясеш. 23 мільярды рублёў – запазычанасьць па зарплатах... 98 мільярдаў разам усе вытворцы завінаваціліся энэргетыкам... Бюджэтнае фінансаваньне сацыяльнай сфэры забясьпечанае толькі на 60% ад патрэбаў... Праўда, урэшце гэта не перашкодзіла раздаваць на зьлёце чырвоныя сьцягі, Ганаровыя граматы, каштоўныя сувэніры і прэміі.**

Бабруйскі завод расьліннага алею распачаў выпуск новага гатунку гэтага прадукту. На новым абсталяваньні прадпрыемства наладзіла выраб больш якаснага, чым раней, алею. Прываблівае таксама й калярытны і цёплы назоў прадукта. Гатунак называецца "Шалом". Нікому ў горадзе, спадзяюся, пры ўсіх міграцыйных працэсах апошніх гадоў, ня трэба тлумачыць сэнс гэтага слова. А для астатніх чытачоў пераклад зь ідышу, калісьці надзвычай распаўсюджанага ў магілёўскім краі: "Шалом!" азначае "Прывітаньне!".

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Не губляючы аптымізму

***Рэдакцыйны калектыў гарадзенскай "Пагоні" ад часу закрыцьця свайго выданьня выпускае электронны варыянт газэты пад крыху зьдзеклівым, але ж і бадзёрым дэвізам: "Нас не дагоніш!".***

А тым часам працягваецца сьледзтва ў крымінальнай справе супраць рэдактара Міколы Маркевіча і карэспандэнта Паўла Мажэйкі, якія абвінавачваюцца у "паклёпе на прэзыдэнта". Абодва журналісты не прызнаюць сваёй віны. Менавіта як недапушчальны, палітычна матываваны перасьлед, выкліканы выкананьнем журналістамі сваіх прафэсійных абавязкаў расцэньваюць "гарадзенскую справу" усе дэмакратычныя партыі краіны і грамадзкія арганізацыі, Беларуская асацыяцыя журналістаў і эўрапейскія журналісцкія арганізацыі. Супрацоўнікі "Пагоні" вераць у сваю перамогу, а таму адразу пасьля закрыцьця газэты замовілі рэгістрацыю новага выданьня. Зразумела, што мясцовая ўлада адмовіла ім у гэтым праве. Больш таго, старшыня гарвыканкаму А.Антоненка адкрыта заявіў Міколе Маркевічу: "Можаш зьвяртацца ў суд, але нічога ў цябе не атрымаецца".

Аднак гэтае цынічнае папярэджаньне не спалохала рэдактара і калегаў. Яны падрыхтавалі новыя рэгістрацыйныя дакумэнты на выданьне газэты з гістарычна-красамоўнай назвай – "Мужыцкая праўда" (так называліся некалькі выпускаў зваротаў Кастуся Каліноўскага да насельніцтва паўстаўшага краю).

А пакуль у абарону журналістаў "Пагоні" у Горадні ўсё больш часта выстаўляюцца грамадзкія пікеты і прымаюцца рэзалюцыі ад грамадзкіх і палітычных арганізацыяў.

***Паводле www.pahonia.com***

ГУТАРКА З АКТУАЛЬНАЙ НАГОДЫ

## Экзамэнацыйны пэрыяд

***Пачатак года адзначыўся справаздачамі і выбарамі ў большасьці палітычных і грамадзкіх арганізацыяў. "Тыднёвік" па ініцыятыве Алеся АСІПЦОВА адчыняе рубрыку, у якой будуць падавацца інтэрвію зь іх кіраўнікамі і ўвогуле інфармацыя аб жыцьці і справах недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў, як тое гаворыцца, зь першых вуснаў. Сёньня – гаворка з новым старшынём абласной арганізацыі БНФ (В.Вячоркі) Рыгорам Костусевым.***

**– Спадар Рыгор, пачнем гаворку зь леташняй прэзыдэнцкай кампаніі. Як Вы ацэньваеце удзел у ёй рэгіянальных франтаўскіх структураў?**

– Мы працавалі. Адным з паказчыкаў эфэктыўнасьці нашага саўдзелу ў кампаніі быў збор подпісаў за Сямёна Домаша. Нашыя структуры ўзялі на сябе й выконвалі асноўны аб'ём працы. Свае абавязацельствы перад партнэрамі па кааліцыі мы добрасумленна выконвалі. А непаразуменьні пачаліся ад моманту вызначэньня адзінага кандыдата ад апазыцыі. Большасьць актыўных удзельнікаў кампаніі ад Фронту наўпрост былі шакаваныя гэтым вызначэньнем і таму разгубіліся. Аднак сябры партыі вытрымоўвалі партыйную дысцыплыну й перайшлі, па рашэньні Сойму БНФ, на бок Ганчарыка, хаця й разумелі, што ён – фігура "непраходная".

**– Дарэчы, на нядаўняй справаздачна-выбарчай канфэрэнцыі Вы былі ці не адзіным, хто крытычна выказаўся на адрас ранейшага кіраўніцтва абласной партыйнай арганізацыі.**

– Сапраўды, я так прамаўляў, але я вінавацію ня толькі ўласна кіраўніка арганізацыі сп.Анатоля Фёдарава, але й сябе, бо таксама быў сябрам Рады. Што да прычынаў таго становішча, ў якім апынулася абласная арганізацыя БНФ, дык для мяне якраз гэта й відавочна: не працаваў наш калегіяльны кіраўнічы орган. А іншая акалічнасьць, што таксама значна замінала працы, была ў тым, што ў вобласьці не было ніводнай структуры БНФ, якая б працавала легітымна і легальна. Зараз мы актыўна выпраўляем гэты хіб. Падтрымаў нас і Сойм, рашэньнем якога ўсе суполкі, незарэгістраваныя ў адпаведнасьці з заканадаўствам, распушчаныя. На гэты момант адбыліся паседжаньні франтаўскіх радаў у Цэнтральным і Ленінскім раёнах Магілёва, падрыхтаваныя неабходныя дакумэнты для рэгістрацыі гэтых арганізацыяў. У бліжэйшы час павінны адбыцца арганізацыйныя паседжаньні ва ўсіх астатніх раённых партыйных структурах.

**– Але я ўзгадваю, што на нядаўняй канфэрэнцыі Вы называлі тры арганізацыі, якія дзеюць афіцыйна, бо былі своечасова пастаўленыя на ўлік.**

– Я казаў пра франтаўскія не партыйныя, а грамадзкія структуры. Такія сапраўды працуюць у Чэрыкаве, Шклове і Бабруйску. Тут справа ў арганізацыйных і рэгістрацыйных нюансах. Структуры грамадзкія (не партыйныя, а рухаўскія) можна рэгістраваць праз райвыканкамы "па месцы жыхарства". Партыйныя ж абавязкова павінны прайсьці рэгістрацыю ў аблвыканкаме. Тут існуюць, як Вы разумееце, свае цяжкасьці. Зараз мы распрацоўваем захады па іхнаму пасьпяховаму пераадольваньню.

**– Спадар Рыгор, у абласной партыйнай арганізацыі, зразумела, існуюць стасункі зь менскім кіраўніцтвам, з партыямі выбарчай кааліцыі і з уладай. У чым асаблівасьці гэтых стасункаў на дадзены момант?**

– З цэнтральным кіраўніцтвам нашыя адносіны выключна працоўныя, дзелавыя. Я адкрыта, тым больш карыстаючыся тым, што выбраны сябрам Сойму БНФ, даводжу сваю і нашу пазыцыю непасрэдна да кіраўніцтва, выкладаю праблемы, уношу прапановы з улікам спэцыфікі рэгіёну. Што тычыцца партнэрскіх партыяў, то найбольш шчыльнымі ў нас склаліся адносіны з АГП і сацыял-дэмакратамі, што аб'ядналіся нядаўна вакол сп.Караля, пакінуўшы М.Статкевіча. У меншай ступені, па прычыне малалікасьці партыі й недастатковасьці ейнага ўплыву на грамадзтва, сябруем з сацыял-дэмакратамі Станіслава Шушкевіча. Былі з нашага боку спробы наладзіць кантакты з Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыяй Зянона Пазьняка, але далей гаворкі на гэтую тэму справа пакуль не пайшла. Мала абнадзейваюць стасункі з уладай. Напрыклад, у маім родным Шклове з часу выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі працягваецца кампанія перасьледу нашых актывістаў і нават іхных родных і сваякоў. Уся краіна ведае пра шклоўскі суд, які цяпер адбываецца над групай маладых людзей за іхны вынаходлівы ўдзел у перадвыбарчай агітацыі, цалкам дапушчальнай па законе.

**– Якія ў арганізацыі бліжэйшыя палітычныя намеры і мерапрыемствы?**

– У веснавых акцыях працоўнага і палітычнага пратэсту будзем абавязкова браць удзел. Будзем таксама актыўна ўдзельнічаць у маючых адносна хутка адбыцца выбарах у мясцовыя саветы. На гэты конт, дарэчы, ёсьць непасрэднае рашэньне Сойму. Разам з вылучэньнем сваіх кандыдатаў на дэпутатаў, будзем гэтым разам весьці больш шырокую і рознабаковую працу з насельніцтвам.

*Гутарыў Алесь АСІПЦОЎ*

## ШТО НА ТЫДНІ... У АСІПОВІЧАХ, КРАСНАПОЛЬЛІ І КЛІМАВІЧАХ




***На заводзе камунальных машын рабочыя перайшлі на няпоўны працоўны тыдзень.***

Тэхнічныя работнікі і служачыя працуюць увогуле па чатыры гадзіны. З 21-га лютага адключана ацяпленьне. В.а. абавязкі дырэктара В.Ашэйчык даў згоду быць на гэтай пасадзе толькі тры месяцы, паколькі існуе рэальная пагроза закрыцьця прадпрыемства.

***Рыгор ЛАТЫШЭВІЧ***




***У межах працы Рады па падтрымцы недзяржаўных арганізацыяў і Ініцыятываў усходу нашай вобласьці адбылося чарговае выязное паседжаньне.***

На сустрэчу былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовай грамадзкасьці, актыўныя людзі, гісторыкі. Пасьля абмеркаваньня бягучых праблемаў былі распрацаваныя накірункі сумеснай працы пад эгідай Крычаўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кантакт-цэнтар". У якасьці асноўных накірункаў пэрспэктыўнага разьвіцьця мясцовага трэцяга сэктару былі акрэсьленыя распаўсюд незалежнай інфармацыі і экалёгія.



***Месяц люты адзначыўся ў гісторыі раёну беспадстаўна жорсткімі злачынствамі.***

Спачатку дзьве дзяўчыны – 16-ці й 18-ці год – забілі з дапамогаю малатка маладую кабету, а ейны труп адцягнулі на возера. Потым мужчына нажом забіў сваю былую жонку, супрацоўніцу гарадзкой бібліятэкі. І нарэшце ў ноч на 27-га лютага невядомыя злачынцы перавярнулі ўсё да гары нагамі ў памяшканьні мясцовага аддзяленьня "Белдзяржстраху": шукалі грошы. Была пашкоджаная кампутарная тэхніка й зьнятыя зь петляў дзьверы кабінэтаў.

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Наўрад ці ўдасца спыніць...

***Магілёўская гарадзкая арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якая найбольш актыўна праяўляе сябе заўважанымі грамадзтвам акцыямі (пікеты ў абарону палітзьняволеных, ланцугі неабыякавых людзей), гэтым разам узялася за збор подпісаў грамадзянаў, якія выступаюць супраць распачатага ў краіне пашырэньня платных мэдычных паслугаў.***

Няма сумневу, што ініцыятары акцыі зьбяруць дастатковую колькасьць подпісаў для таго, каб накіраваць іх ва ўрад з патрабаваньнем адмены адпаведнай пастановы, якая безумоўна пагаршае сацыяльны стан многіх магілёўцаў. Аднак ня верыцца, каб урад на гэта хоць бы нейкім чынам адрэагаваў. Як ня верыцца і ў тое, што гэтага не разумеюць самі грамадоўцы.

Але "хаджэньне ў народ" можа спатрэбіцца і згуляе сваю ролю падчас мяркуемых у наступным годзе выбараў у мясцовыя Саветы. Аб'яднаная грамадзянская партыя, як вядома, ужо заявіла, што абавязкова возьме ў іх удзел. Дарэчы, такія ж заявы зрабілі і ўсе іншыя апазыцыйныя партыі.

Асобную пазыцыю на гэты конт займае толькі Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя – БНФ З.Пазьняка. Яна ініцыюе новыя прэзыдэнцкія выбары пад міжнародным наглядам. Толькі пасьля іх, паводле КХП – БНФ, магчымыя любыя іншыя выбары. Удзел жа ў выбарах па правілах цяперашняга рэжыму, упэўненыя кансэрватыўныя хрысьціяне, нічога даць ня можа, акрамя пагаршэньня стану грамадзтва.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

АБАРАНІ СЯБЕ САМ

# Закон, суд і працэдура

***У аўторак журналісты абласных выданьняў былі запрошаныя ў Магілёўскі праваабарончы цэнтар на прэсавую канфэрэнцыю з нагоды прамежкавага падвядзеньня вынікаў маніторынгу судоў, які незалежныя назіральнікі вялі на працягу 2-х месяцаў.***

Дырэктар МПЦ Сяргей Абадоўскі і старшыня праўленьня гэтай праваабарончай арганізацыі Сяргей Іваноў давялі журналістам, што маніторынгам былі ахопленыя ўсе раённыя суды абласнога цэнтру, Магілёўскі раённы суд і абласны. Назіральнікі ні ў якім разе не былі ўдзельнікамі працэсаў, за якімі наглядалі, ніякім чынам не аналізавалі праўную сутнасьць прысудаў і судовых рашэньняў. Іхнай задачай быў аналіз таго, як выконваецца судовая працэдура і заканадаўчыя патрабаваньні на гэты конт. Справа ў тым, што любое, нават, на першы погляд, дробязнае адхіленьне ад працэдуры насамрэч ёсьць ня толькі прамым парушэньнем правоў і свабодаў чалавека, але й прадвесьнікам магчымых судовых памылак і несправядлівасьцяў.

Назіральнікі пабывалі на палове ўсіх раённых судовых паседжаньняў, што адбываліся цягам 2-х першых месяцаў года, а менавіта – на 1216-ці, і практычна на ўсіх паседжаньнях калегіяў абласнога суда. Агульная карціна захаваньня судзьдзямі адпаведных працэсуальных працэдураў, на жаль, ня можа не засмучаць. Дастаткова пазначыць, што сумарны час, на які спазьняліся судзьдзі ў абвешчаных загадзя тэрмінах пачатку паседжаньняў, складае больш за 200 гадзінаў. Магчыма, як зазначыў С.Абадоўскі, менавіта гэтага часу на практыцы не хапіла судзьдзям на тое, каб лепш, чым гэта назіраецца, рыхтавацца да слуханьняў справаў. Вельмі часта судовыя паседжаньні пераносяцца па зусім ня вартых прычынах. У судах няма абвестак пра тое, у якой залі, які судзьдзя і якую справу разглядае. Судзьдзі староняцца галоснасьці ў сваёй працы й самымі рознымі мэтадамі (былі прыведзеныя канкрэтовыя прыклады) пазьбягаюць шырокай прысутнасьці на паседжаньнях як прадстаўнікоў зацікаўленых у працэсе бакоў, так і – цікаўнай грамадзкасьці. Некаторыя судзьдзі нават не пагаджаліся на прысутнасьць пры слуханьні справаў самі назіральнікаў, нягледзячы на тое, што маніторынг быў папярэдне ўзгоднены з адпаведнымі дзяржаўнымі інстанцыямі. Найбольш тут адзначыліся судзьдзі Кастрычніцкага суду – Н.Канцадал, В.Фаміцкая, В.Мазураў. А зусім недарэчны выпадак здарыўся ў Цэнтральным судзе, дзе Л.Гурыновіч, вызваленая ад абавязкаў і пасады раённага судзьдзі (у сувязі зь пераводам у абласны суд) паўмесяцы працягвала вяршыць суд і вынесла рашэньні амаль па 20 справах. Згодна закону яны неправамоцныя, аднак абласная ўправа юстыцыі і абласная пракуратура пакуль не адрэагавалі на запатрабаваньне МПЦ. Але Сяргей Абадоўскі паведаміў, што праваабаронцы працягнуць сваё змаганьне за поўную адпаведнасьць заканадаўству працэсуальных дзеяньняў судоў.

Па выніках маніторынгу МПЦ выдасьць друкаваны бюлетэнь, для якога ўжо падабраная назва – "Жоўтая кніга".

***Алесь ДАЙНЕКА, Генадзь СУДНІК***



Фота IREX

КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Да ўсяго – і надвор'е...

***Гэты тыдзень абаронцы Курапатаў змагаліся з наступствамі адлігі, якая прыйшла за нечаканай навальніцай і новым сьнегам. У лесе і на ўчастку, дзе разьмешчаны валанцёрскі лягер, скапілася шмат вады, якая нястрымна цячэ пад намёт.***

Хлопцы вымушаныя капаць рыдлёўкамі штучнае русла, па якім імкунуцца накіраваць ваду падалей ад лягеру. Але ж у намёце і вакол яго прыбрана і чыста, нават, наколькі гэта магчыма, утульна. Валанцёрка Люда штодзень упрыгожвае намёт кветкамі. Яна паведаміла, што ейная маці ня толькі ня супраць таго, што дзяўчына дзяжурыць у Курапатах, але й шкадуе пра тое, што ня можа рабіць гэтага сама, бо ведае і разумее, што менавіта бароняць тут маладыя людзі.

Іншы абаронца, Алесь Гетман пахваліўся карэспандэнту мэталёвым вялікім тэрмасам, што падараваў валанцёрам старшыня Беларускага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы. Ён прывёз таксама ў лягер лекі, харчы, абутак. Менавіта ў абутку цяпер маюць асаблівую патрэбу абаронцы, паколькі некаторыя зь іх ужо знасілі па курапацкім лесе па 2-3 пары ботаў. Не пашкодзіць, каб хто-небудзь даставіў маладым і якое трывалае адзеньне.

Цяпер каля ўваходу ў валанцёрскі лягер гасьцей сустракае белая расьцяжка з тэкстам, напісаным чырвонымі літарамі: "З нашай дзяржавай гавораць стагодзьдзі! Не дай сабе загінуць, народзе!".

***Ганна СОУСЬ***

**P.S.** Тым часам працягваецца конкурс на помнік, які раней абвесьціла грамадзкая камісія ў справе стварэньня Курапацкага мэмарыялу. Сярод 30-ці прапановаў пакуль была вылучаная толькі адна, аўтар якой – менскі гісторык Нэлі Герасімава. Яна лічыць, што спачатку ў Курапатах трэба зрабіць перазахаваньні, бо нельга месцы расстрэлаў раўняць зь месцамі пахаваньняў. І толькі потым можна будзе будаваць мэмарыял. Пакуль што канчатковай згоды па гэтай справе ў камісіі няма. Конкурс працягваецца.

# Чым далей ад дэмакратыі...

***Беларусь – краіна з надзвычай высокім узроўнем дзяржаўнай карумпаванасьці.***

Да такой высновы прыйшла міжнародная арганізацыя *Transparency International*, якая правяла на тэму карупцыі міжнароднае адмысловае дасьледаваньне. У выніку аналізу сытуацыі на ўсходзе Эўропы і ў краінах былога СССР высьветлілася, што на сёньня малакарумпаваныя краіны – гэта Эстонія, Славенія, Вугоршчына і Літва. Крыху горш справы ў Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Латвіі й Малдове.

А найбольш высокі ўзровень карупцыі існуе ў Румыніі і ўва ўсіх астатніх былых савецкіх рэспубліках. Беларусь, напрыклад, толькі крыху саступае ў гэтым Расеі і Украіне, якія ёсьць ці не сусьветнымі лідэрамі па карумпаванасьці ўлады.

***Паводле Washington ProFile***

# Вынаходлівы гумар міліцэйскі

***Магілёўскія сябры незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр" наладзілі ў абласным цэнтры доўгатэрміновую акцыю, зьнітаваную з чарговым урадавым падвышэньнем коштаў на паслугі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі для насельніцтва.***

Трэба зазначыць, што гэтая праблема ў апошні час зьяўляецца адной з найбольш набалелых. І справа тут ня толькі ў самім факце падвышэньня тарыфаў і іх непрапарцыянальнасьці рэальнаму заробку людзей. Рэч у тым, што ў нармальных краінах колькасны рост тарыфаў абавязкова прадугледжвае адпаведнае падвышэньне якасьці паслугаў. Вось менавіта на гэтую акалічнасьць вырашылі зьвярнуць увагу гараджанаў магілёўскія ініцыятары грамадзкай акцыі.

Выяўленьнем гэтага сталіся абвесткі ў пад'ездах дамоў, у якіх жыхарам даводзіцца, што зараз, паколькі яны плацяць значна больш, яны маюць поўнае права па любой незадаволенасьці камунальнай службай патрабавальна зьвяртацца ў адпаведныя ўстановы ЖКГ. Дарэчы, кантактныя каардынаты гэтых установаў таксама пазначаныя ў абвестках.

Аднак гэтая высакародная акцыя, якая, дарэчы, ня мае ніякай палітычнай матывацыі, была азмрочаная міліцэйскім затрыманьнем актывіста Яўгена Драбязкі. Пільныя міліцыянты зь Ленінскага райаддзелу схапілі хлопца блізу камбінату сілікатных вырабаў. У пастарунку тыя ж ахоўнікі парадку, якія адмовіліся сябе назваць, адабралі ўсё, што было пры Яўгену. Асаблівую і зусім нядобразычлівую зацікаўленасьць выклікалі ў іх менавіта абвесткі. Далей міліцыянты, па словах затрыманага, закінулі яму ў кайстру патронаў ад вінтоўкі ды з жартам запытвалі: "А дзе ж непасрэдна зброя?"... Праз гадзіну, праведзеную хлопцам пад гэткі "гумар", ён быў адпушчаны. Яму так і не патлумачылі, за што ж уласна ён быў затрыманы.

***Алесь ДАЙНЕКА***

# ... Тут і здаровым мала што перападае

***У Менску адбылася міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная праблемам дзяцей з абмежаванымі магчымасьцямі.***

Ініцыятарам форуму выступіла грамадзкая арганізацыя "Беларуская асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам" пры падтрымцы нямецкіх дабрачынных таварыстваў "Бэтэль" і "Жыцьцёвая дапамога". Як зазначылі ўдзельнікі сустрэчы, стан маладых інвалідаў у Беларусі бязпраўны і безпэрспэктыўны.

Найвастрэйшая праблема – немагчымасьць працаўладкаваньня. Да прыкладу, сёньня ў краіне амаль 30 тысяч маладых людзей з рознымі фізычнымі ды разумовымі абмежаванасьцямі, а толькі ня больш за 3 тысячы зь іх здолелі знайсьці пасільную працу. У разьвітых краінах, як адзначалася на канфэрэнцыі, гэты паказчык звычайна даходзіць да 60% ад агульнай колькасьці інвалідаў.

Дарэчы, нямецкае таварыства "Бэтэль" – гэта своеасаблівы горад у горадзе, дзе адразу 350 тысяч інвалідаў жывуць, вучацца, працуюць і нават ствараюць сем'і. Кіраўнік таварыства, сьвятар Гербэр Вальх'ютэр паведаміў, што цягам апошніх 20-ці гадоў у Нямеччыне дзяржава стварыла працоўныя месцы для кожнага чалавека, які мае абмежаваныя магчымасьці.

У Беларусі ж праблемы інвалідаў амаль цалкам ёсьць добраахвотнай справай гуманітарных грамадзкіх арганізацыяў. Ускосным чынам гэта было пацьверджана й няўдзелам у канфэрэнцыі адказных чыноўнікаў Міністэрства сацыяльнай абароны насельніцтва.

***Галіна АБАКУНЧЫК***



Фота IREX



# Рана адчыняць дзьверы

***Старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларускіх габрэяў Якаў Гутман заклікаў Кангрэс ЗША не адмяняць у дачыненьні да Беларусі дзеяньне папраўкі Джэксана-Вэніка.***

Гэтая папраўка, прынятая Кангрэсам ЗША ў 1978 годзе, як вядома, накладала часовыя абмежаваньні на гандаль з краінамі сацыялістычнага лягеру, якія не прадастаўлялі сваім грамадзянам свабоду эміграцыі. Яе дзеяньне ўжо адмененае ў адносінах да Кітаю й большасьці краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Беларусь пакуль яшчэ дамагаецца гэткага ж стаўленьня да сябе.

Аднак сп.Гутман паведамляе Кангрэсу, што для нашай краіны яшчэ рана адчыняць дзьверы ў цывілізаваную супольнасьць. Беларускія ўлады, напрыклад, "ніяк не адрэагавалі на неаднаразовае апаганьваньне габрэйскіх могілак у Берасьці й Барысаве, а таксама на спробы падпальваньня дзьвюх менскіх сынагогаў". Старшыня габрэйскай Асацыяцыі паведамляе таксама, што ў 2000г. у Менску быў выдадзены шэраг вядомых антысэміцкіх твораў, сярод якіх – "Пратаколы сыёнскіх мудрацоў", што даўно адрынуты сьветам як фальшыўка. Больш за тое: суд, які разглядаў зыск габрэйскага таварыства да выдаўцоў згаданай "прадукцыі", вырашыў, што яна не абражае габрэяў.

Апошняе, што падштурхнула сп.Гутмана да звароту ў Кангрэс ЗША, стала зруйнаваньне старэйшай менскай сынагогі па вуліцы Дзімітрава, 3. Сам старшыня Асацыяцыі беларускіх габрэяў быў асуджаны на 15 сутказ арышту за тое, што спрабаваў перашкодзіць бульдозэрам руйнаваць гістарычны будынак.

***Сьвятлана АЛЕШКА***

# Жыцьцё і Адраджэньне

**Гэтымі днямі дэмакратычная грамадзкасьць краіны адзначае 60-годзьдзе з дня нараджэньня гісторыка, археоляга і літаратара Міхася Ткачова.**



Наш з вамі знакаміты зямляк, што паходзіць з старажытнага Мсьціслава, вядомы таксама тым, што напрыканцы 80-х гадоў стаяў ля вытокаў сучаснай плыні нацыянальнага Адраджэньня. Міхась Ткачоў заснаваў і быў першым старшынём Беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада". На жаль, ягоныя палітычныя нашчадкі, пасьля раптоўнай сьмерці лідэра (ў пачатку 90-х), паступова адыйшлі ад нацыянальна-патрыятычных прынцыпаў Адраджэнскага руху, вынікам чаго сталіся пэрманэнтныя сваркі, разлады і здрады, якімі вызначаецца сёньняшні стан беларускай сацыял-дэмакратыі...

Суполка магілёўскіх гісторыкаў, аб'яднаных праектам "Магілёўская даўніна", мяркуе адзначыць дзень нараджэньня свайго выбітнага калегі наведаньнем ягонай малой Радзімы і ўскладаньнем кветак на прыступкі хаты, дзе нарадзіўся і доўгі час жыў Міхась Ткачоў. А ў абласным цэнтры яны правядуць вечарыну, прысьвечаную жыцьцю і творчасьці Вучонага-Патрыёта і выдатнага Чалавека.

***"Тыднёвік"***

# Швэдзкі ўрок

***Напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёве адбылася рабочая сустрэча пад назвай "Эфэктыўнае разьвіцьцё грамадзкай арганізацыі".***

Наладзілі яе швэдзкае грамадзкае аб'яднаньне "Моладзь Хрысьціянска-дэмакратычнага Зьвязу" (KDU) разам зь віцебскім моладзевым грамадзкім аб'яднаньнем "Контур" пры падтрымцы магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў". На сустрэчу сабраліся больш за два дзясяткі прадстаўнікоў моладзевых ініцыятываў з Магілёву й шэрагу раёнаў вобласьці.

Швэды распавялі прысутным аб тым, як у іхняй краіне моладзь удзельнічае ў грамадзкім жыцьці. Цікавым быў расповяд журналісткі газэты "Хрысьціянскія дэмакраты" Сэсіліі Інгемансан аб дзейнасьці студэнцкага ўнівэрсытэцкага зьвязу ў горадзе Ўтэа. Ня менш цікавым быў выступ кіраўніка аднаго з рэгіянальных аддзелаў KDU Робэрта Лісбарга пра тое, як яны далучаюць людзей да грамадзкай працы, як выкарыстоўваюць дзеля гэтага магчымасьці мэдыяў ды іншыя камунікацыйныя каналы. Кіраўнік швэдзкай дэлегацыі Генрык Густафсан падзяліўся сваім разуменьнем той дапамогі, якую аказвае цывілізаваны сьвет беларускай дэмакратычнай супольнасьці. А дырэктар "Кола сяброў" Віталь Васількоў распавёў удзельнікам сустрэчы аб становішчы, праблемах і пэрспэктывах нашай грамадзкай сфэры.

Зьязджаючы, швэды пажадалі магілёўцам мужнасьці, надзеі й трываласьці. Яны выказалі ўпэўненасьць у тым, што Эўропа на Беларусь не забудзецца й працягне падтрымліваць дэмакратычныя каштоўнасьці ў нашай краіне, чаму безумоўна спрыяюць непасрэдныя кантакты прадстаўнікоў "трэцяга сэктару".

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***
***Фота аўтара***



## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ

***Старшыня Канстытуцыйнага суду РБ Георгі Васілевіч забараніў журналістам рабіць фотаздымкі падчас свайго выступу на заводзе гумавых вырабаў.***

У часе выступу, каб неяк ажывіць сустрэчу, сп.Васілевіч пацікавіўся заробкамі на заводзе: маўляў, "ня менш як даляраў па 200 атрымліваеце". Гэта выклікала сьмех у залі, бо сярэдні заробак у "гумаўцаў" не перавышае і 60 даляраў. Што тычыцца зарплаты самога старшыні КС (а такое пытаньне яму паступіла), то ён высьвятляць гэта адмовіўся. Затое высокі госьць старанна запісваў тэлефоны і адрасы пакрыўджаных крычаўцаў з абяцаньнямі дасканала разабрацца зь іхнымі шматлікімі праблемамі.

***З раённага бюджэту было выдаткавана 1670 мінімальных заработных платаў на заахвочваньне мясцовых перадавікоў.***

Пра гэта стала вядома пасьля праведзенага днямі "зьлёту перадавікоў народнай гаспадаркі". Цікава, што самую вялікую прэмію – у 300 мінімалак – атрымаў чамусьці завод гумавых вырабаў, які вось ужо некалькі год прыносіць літаральна астранамічныя страты.

***Андрэй КУЗЬМІН***

# Мы і Мова

***Паважаныя чытачы "Тыднёвіка Магілёўскага"!***

Дзякуючы намаганьням ТБМ, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусі прыняла 27 жніўня 2001 году "Праграму дадатковых мераў па пашырэньні сфэры выкарыстаньня беларускай мовы ў сыстэме адукацыі" *(гэты дакумэнт апублікаваны цалкам у №49 газэты "Наша слова" ад 12-га сьнежня 2001г.).*

Аднак практычнае выкананьне гэтай праграмы залежыць ад кожнага з нас. Таму мы прапануем Вам напісаць адпаведныя лісты на імя старшыні выканкаму і загадчыка аддзелу адукацыі вашага гораду ці раёну з прапановай з новага навучальнага году (2002-2003) адкрыць Нацыянальную гімназію зь беларускаю моваю навучаньня. Дарэчы, настаўнікі, якія будуць падтрымліваць ідэю стварэньня нацыянальнай гімназіі ў Вашым рэгіёне й потым працаваць у ёй, атрымаюць надбаўку да заробку ў памеры 20%.

Дарагія сябры, зараз мы зьбіраем ахвяраваньні на выданьне беларускіх каляндарыкаў з партрэтамі Браніслава Тарашкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Ігната Дамейкі і Міхася Ткачова, а таксама сродкі на падпіску газэты "Наша слова" вясковым і школьным бібліятэкам.

Просім Вас прыняць актыўны ўдзел у гэтай пачэснай справе. Сьпісы ахвярадаўцаў будуць надрукаваныя ў "Нашым слове". Ахвяраваньні можна пералічыць на наш разьліковы рахунак №3015212330014 у МГД ААТ "Белінвэстбанк" г.Менску, код 764 альбо выслаць паштовым пераводам на адрас: ТБМ імя Ф.Скарыны, вул.Румянцава, 13, Менск, 220005.

Мы таксама запрашаем Вас уступіць у нашую арганізацыю. Суполкі ТБМ актыўна дзейнічаюць у Бабруйску, Магілёве і Шклове. Аднак было б добра аднавіць дзейнасьць ТБМ у Клічаве, Слаўгарадзе, Дрыбіне і Краснапольлі. Таму пішыце нам альбо званіце на тэлефоне: 8-017-284-85-11.

***З павагай, Алег ТРУСАЎ,***
***старшыня ГА "ТБМ" імя Ф.Скарыны***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНЫЧАХ



***Распачаліся мерапрыемствы з нагоды 130-гадовага юбілею народнага мастака Беларусі й Расеі Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.***

Былі адчыненыя некалькі выставаў мясцовых мастакоў і тых, хто нарадзіліся ў нашым раёне: перасоўная ў Цяхцінскай СШ ды пастаянная – у раённым мастацкім музэі. Адбываюцца сустрэчы жыхароў раёну з гасьцямі-мастакамі, была пагашана адмысловая юбілейная паштовая марка. Першым ляўрэатам дыплёму, мэдаля й прэміі імя Бялыніцкага-Бірулі, што былі заснаваныя ў мінулым годзе райвыканкамам, стала мастачка, выкладчыца раённай дзіцячай школы мастацтва Ларыса Журавовіч.

***Па прапанове старшыні праўленьня калгасу "Радзіма" Аляксандра Лапацентава, сход калгасьнікаў гэтай гаспадаркі прыняў адмысловую пастанову.***

Паводле яе кожны працаўнік, які ня паліць, атрымае да свайго штомесячнага заробку 10% надбаўкі. Той жа, хто наогул кіне курыць, зможа прэтэндаваць на 15%. Новаўвядзеньне, паводле падлікаў старшыні, будзе каштаваць гаспадарцы прыкладна 40 бычкоў цягам году. "Радзіма", якая на сёньня працуе адносна стабільна, можа сабе дазволіць падобнае заахвочваньне.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

# Памяці калегі

Памёр Васіль Даўгалёў, вэтэран журналісцкага цэху, рэдактар недзяржаўнай газэты "Беларускі Ўсход". Больш за дзесяць год ён, жывучы ў хоцімскай вёсцы Маркаўка, практычна адзін выдаваў газэту, якую лічыў найважнейшай справай свайго жыцьця. Ён быў мужным чалавекам, бо жыў і рабіў сваю справу ў беларускай глыбінцы – там, дзе няма куды схавацца ад найбольш артадаксальнай грамадзкай думкі, там, дзе ад савецкіх часоў пануе найбольшы страх...

Дзед Васіль, як з павагай называлі яго ўсе, хто ведаў гэтага чалавека, прайшоў доўгі жыцьцёвы шлях. Быў рабочым і старшынём калгаснага прафкаму. Быў прыхільнікам камуністычнай ідэі, аднак здолеў паставіцца да яе крытычна і рашуча перайсьці ў шэрагі абаронцаў беларускай незалежнасьці і дэмакратыі. Накват у часе нядоўгага знаходжаньня ў Санкт-Пецярбурзе здолеў стварыць там з аб'яднаных землякоў суполку Беларускага Народнага Фронту. Вярнуўся на радзіму й пачаў рабіць газэту, бо верыў, што праўдзівае слова можа многае.

Ягоную газэту з дэвізам "Жыве Беларусь!" неаднойчы спрабавалі зачыніць, на яе насылалі падатковых інспэктараў і адбіралі абсталяваньне. Але яна жыла і назаўсёды застанецца на грамадзка-палітычнай і маральнай мапе ўсходняй частцы Прыдняпроўя. Гэтая найбольш зрусіфікаваная і зьнявечаная тэрыторыя рабілася з дапамогаю Васіля Даўгалёва больш чалавечай, прыстойнай і нацыянальнай.

Вечнае за тое яму Дзякуй і вечная Памяць!...

***Калегі з "ТМ"***

# Вясна прыходзіць з прафсаюзамі

**Прэзыдыюм Фэдэрацыі прафсаюзаў прызначыў акцыю пратэсту супраць зьбядненьня працоўных і парушэньня прафсаюзных правоў на 28-ае сакавіка.**

Частка сябраў прэзыдыюму, аднак, адмоўна ставіцца да абвешчанай акцыі пратэсту. Гэтыя людзі мяркуюць, што працоўныя калектывы пакуль не гатовыя да актыўных дзеяньняў. Іншыя ж лічаць, што адкладаць пратэст няма як, бо гэта нэгатыўна адаб'ецца на рэпутацыі Фэдэрацыі прафсаюзаў.

Таму ейны старшыня Франц Вітко паведаміў для сродкаў масавай інфармацыі, што 28-га сакавіка па ўсёй Беларусі адбудуцца пікеты, сходы й мітынгі.

***Міхал СТЭЛЬМАК***

# "Да запатрабаваньня, прэзыдэнту"...

**Жыхар раённага цэнтру Жабінка Генадзь Самойленка сваю першую пэнсію – 68 тыс. руб. – паштовым пераводам адправіў Лукашэнку.**

Раённае аддзяленьне сувязі адмовілася прыняць перавод на адрас: г.Менск, вул.Карла Маркса, 38. Пэнсіянэру параілі адасласць грошы на Галоўны паштамт – "да запатрабаваньня". Генадзь Самойленка адначасна зь пераводам напісаў ліст на імя Лукашэнкі, у якім, у прыватнасьці, паведамляе наступнае: "Я маю каэфіцэнт 2,16. За сваю працу я заўсёды зарабляў у жыцьці немалыя грошы. Ваш Дэкрэт №12 проста абкрадвае людзей. Трэба зразумець, што вельмі несправядліва з намі паступаюць".

Надалей сп.Самойленка мае намер зьвярнуцца ў суд, таму што "ніякім дэкрэтам ніхто ня мае права адбіраць у пэнсіянэраў тыя грошы, якія заробленыя потам, крывёй і мазалямі".

***Паводле інф. агенцыяў***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 10. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 06.03.2002 г. а 17.05